ПАГОНЯ

Чацвер
4 сакавіка 1999 г.
№ 17 (394)
Кошт 15000 руб.

## Калі яны шукалі, значыць, гэта камусьці трэба

**2 сакавіка ў Гродне адначасова адразу папоўдні былі праведзены вобыскі ў рэдакцыі газеты ПАГОНЯ, абласным грамадскім аб'яднанні «Ратуша» і лялечным тэатры. «Шмон» наводзілі супольнымі сіламі работнікі КГБ і крымінальнага вышуку аддзела ўнутраных спраў Ленінскага раёна горада.**

Я присутнічаў падчас гэтай ганебнай акцыі ў рэдакцыі ПАГОНІ. Сямёра маладых людзей у цывільным на чале са сталым аператыўнікам уважліва - паперка за паперкай - перабіралі рэдакцыйны архіў. Тут жа знаходзіўся рэдактар выдання Мікола Маркевіч:

- Намеснік начальніка Ленінскага РАУС Гродна Н.Галаўко паведаміў мне, што пракуратурай распачата крымінальная справа, звязаная, паводле словаў міліцэйскага высокага чыну, з «сілавым звяржэннем існуючага ладу і захопам улады». Была прад'яўлена пастанова на вобыск, падпісаная пракурорам Ленінскага раёна горада П.Урублеўскім. Там прадпісвалася канфіскаваць «інфармацыйныя матэрыялы, звязаныя з альтэрнатыўнымі выбарамі, карыкатуры ды іншую друкаваную прадукцыю».

Некалькі «пінкертонаў» выцягвалі па чарзе шуфлядкі са сталоў і корпаліся ў паперах. Было такое адчуванне, што глядзіш стары фільм, дзе агенты «охранки» зрабілі напад на канспіратыўную кватэру. Іншаму маладому чалавеку, відаць, было загадана ўважліва назіраць за дзеяннямі супрацоўнікаў газеты. Што гэта так, я пераканаўся, шырока разгарнуўшы чарговы нумар «Народнай Волі» і звузіўшы такім чынам вугал нагляду. Хлопец адразу змяніў дыслакацыю на больш зручную.

У сумежным пакоі бавілі час два міліцыянты ў форме і з радыётэлефонамі...

Пошукі вяліся больш як дзве гадзіны. Былі прагледжаны ўсе файлы камп'ютараў. Былі канфіскаваны некалькі карыкатур з газетнага архіву, некалькі паштовых паступленняў, у тым ліку брашуры і ўлёткі розных палітычных арганізацый за 1991-1997 гады. Зброя і наркотыкі выяўлены не былі.

Рэдактар ПАГОНІ звярнуў увагу на тую акалічнасць, што інцыдэнт - мэтанакіраваная палітыка ўладаў, спроба запалохаць журналістаў, абмежаваць свабоду слова ў краіне. Пра гэта сведчыць і зусім абсурднае з пункту гледжання закона афіцыйнае папярэджанне Дзяржкамдруку Беларусі ад 10 лютага бягучага года. Шэраг дэмакратычных газет, у тым ліку і ПАГОНЯ, бяздоказна абвінавачвалася «ў закліках да захопу ўлады».

У тэатры лялек увагай не была абыйдзена майстэрня вядомага мастака Алеся Сурава. Вобыск быў праведзены таксама ў яго кватэры.

І ў абласным грамадскім аб'яднанні «Ратуша» пошукі праводзіліся па тым жа сцэнару. Хіба што не пускалі ў памяшканне наведвальнікаў, як, напрыклад, старшыню гарадской філіі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання «Ветэран» Мікалая Мельнікава, які завітаў сюды па справах.

Старшыня Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша» Аляксандр Мілінкевіч паведаміў наступнае:

- Следчы пракуратуры Ленінскага раёна А.Танкевіч прад'явіў санкцыю пракурора ў сувязі з распачыннанем крымінальнай справы па абароне гонару і годнасці кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь. Былі канфіскаваны брашуры «У пагоню» з карыкатурамі мастака Алеся Сурава, артыкул «Трагедыя Беларусі» С.Шарэцкага, пратакол пасяджэння па вылучэнні кандыдатаў у Цэнтрвыбаркам, інфармацыйны бюлетэнь «Трэці сектар».

**Антон Лабовіч**




**5 і 6 сакавіка** - кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы 0...-1, удзень +1...+4.

# Пахвальнае слова жаноцкасці

**Свята 8 Сакавіка... Ужо не першы год мы адзначаем яго без статусу міжнароднага, без ідэалагічных заклікаў і гістарычных спасылак. Зараз гэта - проста Дзень жанчын: нашых маці, жонак, сясцёр, сябровак. І адначасова - свята вясны. Мы адзначаем яе пачатак, як вызваленне ад зімовай няўпэўненасці і трывогі. Святкуем надзею - на цеплыню і дабрыню, на лепшае жыццё. І спадзяемся на каханне, без якога не абыходзіцца ні адна вясна.**




Не так многа святаў засталося цяпер у нашым жыцці. Чаму ж тады ўшаноўваем жанчын толькі раз у год, нібыта раўнуючы 8 Сакавіка з прафесійнымі святамі - Днём аўтамабіліста, хімікаў, геолагаў? Ці не таму, што ўсё яшчэ па інэрцыі працягваем думаць, што жанчыну ўпрыгожвае толькі натхнёная праца? У свой час, устанаўліваючы рэкорды па ліццю чыгуну і пракату сталі на душу насельніцтва, мы ўстанавілі і такі рэкорд: узровень жаночай занятасці перавысіў усе дапушчальныя нормы. Цяпер 92 працэнты жанчын працуюць па-за домам, тады як падлічана, што для падтрымання нармальнага дэмаграфічнага ўзроўню павінна быць вызвалена ад вытворчасці як мінімум 15 працэнтаў жанчын.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Статыстыкі падлічылі: у час «хатняй змены» жанчына штодзённа праходзіць пешшу 15-20 кіламетраў. У дзень яна ажыццяўляе каля 50 розных аперацый. Мыццё акон патрабуе больш сіл, чым ваджэнне таксі, а прасаванне бялізны - столькі ж, як і праца муляра. Пры гэтым сярэднестатыстычная хатняя гаспадыня траціць на адпачынак толькі адну гадзіну 20 хвілін у суткі. Як кажуць, тут ужо не да лірыкі. Ці не таму пра жаноцкасць, прывабнасць, пяшчоту мы ўзгадваем часцей за ўсё толькі да пэўнай каляндарнай даты? Шкада. «Пры самым строгім захаванні раўнапраўя нам патрэбен культ жаночай чароўнасці», - пісаў Сяльвінскі. Так, менавіта культ. І ў першую чаргу ён патрэбен мужчынам, аб фемінізацыі якіх цяпер шмат размоваў. Патрэбен ён і кожнай жанчыне, бо без гэтага яна папросту губляе сваю жаноцкасць.

На жаль, яе застаецца ўсё менш. Малавата застаецца і імкнення да прыгажосці, пяшчоты, дабрыні. А гэта ж - класічная мерка чалавечых дабрадзейнасцяў, якім жыць вечна. Чаму так атрымліваецца? І ці маем мы права абыякава фіксаваць гэта: маўляў, такі час на двары... Упэўнены: нягледзячы на даволі складаны час, на шматлікія праблемы, бясконцыя клопаты недахоп жаноцкасці трэба ўспрымаць як адхіленне ад нормы.

З дзіцячага садка, праз школу, інстытут, працоўны калектыў мы навучыліся гаварыць пра тое, што яднае мужчыну і жанчыну. Ці не настала пара гэтак жа горача гаварыць і пра тое, што адрозніе іх? Каб пяцігадовы чалавек, які ўпершыню вывучыў верш «Мамы всякие нужны», аднечасова засвоіў і звычку прапускаць сваю (і чужую!) маму наперад. Каб у школе дзяўчынак выхоўвалі сапраўдых дзяўчынкамі, а хлопчыкаў -хлопчыкамі, а не проста навучэнцамі. Каб існавалі толькі мужчынскія віды спорту, бо, калі глядзіш на асоб неакрэсленага полу, што баксіруюць на манежы ці ганяюць мяч на футбольным полі, становіцца няёмка і сорамна за жанчын.

Быць чалавекам - гэта многа, але быць жанчынай - яшчэ больш. Словы гэтыя сказаў, дарэчы, мужчына. Нагадаем: мужчына будуе дом. Ад яго майстэрства, ад паўнаты сэрца залежыць трываласць дома, яго прыгажосць, здароўе. Аднак усё тое, што ўнутры дома - утульнасць, цеплыня, шчасце - гэта ад жанчыны. Будзем шанаваць і кахаць жанчын, каб не даваліся, неўзабаве, заносіць у слоўнікі слова «жаноцкасць» як архаізм.

**Юрый Шастак**

# Пах жанчыны

**23 лютага ў галерэі «У Майстра» адбылося адкрыццё мастацкай выставы «Ню».**



Гэта, напэўна, невыпадкова, што ў традыцыйна мужчынскае свята багема вырашыла падсаладзіць жыццё моцнай палове гарадзенскага чалавецтва. На выставе прапаноўваецца жывапіс і скульптура шасці гарадзенскіх мастакоў Генадзя Лакобы, Уладзіміра Панцялеева, Сяргея Стомы, Юрыя Якавенкі, Аляксандра Сільвановіча, Сяргея Грыневіча і менчука спадара Ксяндзова. Усе яны кожны на свой лад выяўляюць аголеную натуру.

Непараўнальным майстрам разьбярства, як заўсёды, выступіў Уладзімір Панцялееў. Ягоныя мадэлі адна другой вытанчаней і дасканалей. Цікавая асаблівасць: майстар выяўляе фігуру ў межах ад шыі да клубаў, ігнаруючы галаву і астатнія дугасныя часткі цела, абыходзячы іх сваёй увагай. Аднак ад гэтага яго мадэлі менш выразнымі не становяцца.

Сяргей Грыневіч адышоў ад сваіх абстрактна-геаметрычных кампазіцый, стварыўшы мяккі пяшчотны сілуэт жаночай фігуры са спіны. Яго гераіня заспетая за вельмі празаічным заняткам - расчэсваннем валасоў.

Імпрэза «У Майстра» была арганізавана, як заўсёды, на высокім узроўні: са сцэнарам, чытаннем вершаў і частаваннем гасцей.

Адпаведна плану, усе аўтары, нават тыя, хто хацеў было сціпла адседзецца за спінамі гледачоў, былі выкліканы на імправізаваную сцэну. Там іх узнагародзілі памятнымі знакамі аб удзеле ў выставе, чыталі вершы пра каханне і наогул гаварылі шмат добрых словаў пра вясну і прыгажосць. Пад занавес гаспадыня галерэі Ірына Сільвановіч падрыхтавала ўсім прысутным пікантны сюрпрыз: мы мелі магчымасць «обонять», як пахне галізна. Калі сур'ёзна, то ў залу проста распрыскалі колькі кропель выдатных духоў «Nud» з Нью-Ёрку, аўтаркай якіх стала былая гарадзенка Ірына Гросман.

Паколькі ўсе аўтары выставы «Ню» - мужчыны, то натура, выяўленая на палатне і ў скульптуры, выключна жаночая.

Хаця, прызнацца, хацелася б большай разнастайнасці. У прыватнасці, рознабаковага асвятлення мужчынскага ню. Відаць, няма ў нас смелых аўтарак, якія б адважыліся паэксперыментаваць у гэтым жанры. Разам з тым, класікі ж ніколі не саромеліся накіроўваць сваю творчую актыўнасць у абодва бакі.

**Алена Сіневіч**

**На здымку: аўтары і арганізатары выставы «Ню». Яны ведаюць, што такое прыгажосць!**

## Прэзідэнт клапоціцца пра жывёлу

**4 сакавіка прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наведае з рабочай паездкай Гарадзенскую вобласць.**

Як паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба, кіраўнік дзяржавы мае намер у першую чаргу наведаць прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу. Так, у Слонімскім раёне А.Лукашэнка пракантралюе працу мясцовых кіраўнікоў па забеспячэнні зімоўкі жывёлы, а таксама азнаёміцца з вытворчасцю жывёлагадоўчай прадукцыі.

**Ул. інф.**

9 сакавіка ў 18.30 адбудзецца справаздачна-перавыбарчая канферэнцыя Таварыства беларускай мовы (універсітэт, корпус на вул.Леніна, ауд.3).

**Гарадская рада ТБМ**

## Гракі прыляцелі

**Першага сакавіка ў Гродна вярнуліся з цёплых краёў гракі.**

Яны засяліліся на свае звыклае месца ў гарадскім парку імя Жылібера і хутка пачнуць віць гнёзды. Калі пратрымаецца добрае надвор'е, то праз тыдзень-другі трэба чакаць прылёту жаўрукоў.

## Грып саступае вясне

**Паводле звестак гарадской санітарна-эпідэміялагічнай станцыі, эпідэмія грыпу пайшла на спад.**

Адпаведна дадзеных на 1-2 сакавіка, у параўнанні з мінулым тыднем, узровень захворваемасці знізіўся на 40 працэнтаў. 22-23 лютага па ўрачэбную дапамогу звярталіся амаль па тры тысячы грыпуючых. На пачатак сакавіка гэтыя лічбы знізіліся да 1600-1700 чалавек у дзень.

Урач-эпідэміёлаг гарадской СЭС Тадэвуш Тодрык лічыць, што гаварыць пра канчатковы спад эпідэміі грыпу яшчэ рана: «Калі спад захворванняў пратрымаецца яшчэ дні два-тры, то можна будзе спадзявацца на заканчэнне эпідэміі... Калі не прыйдзе другая хваля».

Эпідэміёлагі мяркуюць, што сёлета ўзровень захворваемасці быў прыкладна такі ж, як і ў мінулыя гады. Праўда, не было каранцінаў з закрыццём школ - закрывалі толькі асобныя класы ў некаторых школах.

На сённяшні дзень, паводле папярэдніх дадзеных, зарэгістраваны тры смяротныя зыходы, прычынай якіх быў грып. У студзені памёр малады мужчына 24-х гадоў. У лютым - дзіця, якому было два годзікі і 10 месяцаў і 70-гадовы мужчына. Абодва мужчыны праходзілі лячэнне ў бальніцы, дзіця памерла дома.

**Алена Сіневіч**

## Салодкі серыяльчык з Бразіліі

**На паліцах гарадзенскіх крамаў можна ўбачыць нямецкі ды чэшскі цукар па цане 220-230 тысяч рублёў. Альтэрнатывай яму можа выступіць больш танны цукар вытворчасці Скідальскага цукровага камбіната, якія выраблецца з бразільскай сыравіны. Яго адпускная цана зацверджана ў памеры 85 тысяч рублёў за кілаграм. З улікам гандлёвай надбаўкі, танней чым за 100 тысяч рублёў цукру не набыць.**

З бразільскай сыравіны, якую пастаўляюць недзяржаўныя фірмы, пасля перапрацоўкі ў Беларусі застаецца толькі трэція частка гатовага прадукту, альбо каля 50-60 тысяч тон. Днямі на цукровы камбінат паступілі першыя 10 тысяч тон сыравіны. На падыходзе цеплаход з сыравінай, які прыбудзе ў адзін з прыбалтыйскіх портаў.

**Б.Кашталян**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Наша палітыка будзе накіравана на тое, каб беларус багацеў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, спаўняючы Канстытуцыю, аб'явіў выбары прэзыдэнта. Гэтая пастанова канстытуцыйная з пункту гледжаньня права і не супярэчыць закону. Яна правамоцная ў існуючых абставінах.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» дзейнічае па Канстытуцыі і кіруецца канстытуцыйнымі законамі. Выходзячы з гэтага Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» прымае ўдзел у выбарах і прапанавае мне выставіць сваю кандыдатуру на пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Гэтым паведамленьнем сведчу аб сваім рашэньні прыняць удзел у выбарах у якасьці кандыдата на пасаду прэзыдэнта Беларусі і лічу патрэбным сказаць наступнае.

Стварыць нармальную беларускую ўладу, якая б выяўляла і абараняла інтарэсы беларускай нацыі, у цяперашніх абставінах практычна вельмі цяжка, пакуль Беларусь застаецца прэзыдэнцкай дзяржавай з прыярытэтам прэзыдэнцкіх правоў. Досыць прэзыдэнцтва! Улада павінна быць збалянсаванаю на прынцыпах парляманцкай рэспублікі, дзе функцыі прэзыдэнта абмежаваныя, ураўнаважаныя парлямантам, альбо адсутнічаюць зусім.

Стварыць нармальны беларускі парлямант, які б быў дэмакратычны і зыходзіў з беларускіх нацыянальных інтарэсаў у існуючых абставінах не рэальна, паколькі ён будзе выбірацца па мажарытарнай сістэме. Павінна быць прапарцыйная, альбо змешаная сыстэма выбараў.

Гэтыя два пытаньні можна вырашыць уладнымі мэтадамі знутры. Ініцыятарам да зьмяненьня прэзыдэнцкай улады павінен стаць прэзыдэнт.

Я лічу, што трэба ствараць канстытуцыйныя ўмовы для ліквідацыі антыбеларускага рэжыму і выкарыстаць іх дзеля вызваленьня ад дыктатуры.

Прыняўшы рашэньне аб удзеле ў выбарах прэзыдэнта, аб'яўленых Вярхоўным Саветам, я зыходжу з палітычнай неабходнасьці такога кроку і з рэальнасьці перамогі на выбарах.

Цяперашняя ўлада ў Беларусі ўтварылася на нянавісьці, матэрыялізме, савецкім рэваншызме і ашуканстве. Апора была зроблена на прымітыўную сьвядомасьць. Зь яе глыбіняў на паверхню выцягнулі і легалізавалі самыя цёмныя інстынкты, заганы, азлабленьне, зайздрасьць, эгалітарызм, агрэсыўную непавагу да нацыянальных каштоўнасьцяў і духоўных ідэяў.

Але нянавісьць не стварае. Прымітыўнае не спараджае дасканалага, нізкае - вялікага, а здрада - веры. Відаць, шмат каму спатрэбілася пяць пакутных гадоў паніжэньня, каб зразумець гэтыя простыя ісьціны.

Мы павінны вярнуцца да нашых традыцыйных белрускіх духоўных здабыткаў, да ўпэўненасьці ў сабе, да праўды, выпрабаванай гісторыяй.

Нашым найвялікшым нацыянальным сьведчаньнем, найвялікшым дасягненьнем зьяўляецца наша дзяржава. Страта дзяржавы, яе незалежнасьці ёсьць страта самых сябе. Ніякія пляны аб нармальным жыцьці, нават толькі матэрыяльныя, нават самыя простыя, нельга ажыцьцявіць, не маючы сваёй дзяржавы, свабоды і незалежнасьці.

Нашым найвялікшым нацыянальным сьведчаньнем, найвялікшым дасягненьнем і сродкам культуры ёсьць наша беларуская мова. Калі мы хочам застацца жывым народам, мы павінны дзяржаўна яе шанаваць.

Тыя, хто да 1995 года бясконца ёрнічалі і шыпелі на беларускі сьцяг, тыя, хто дэманстратыўна высьмейвалі за абарону сьцяга, як



за нязначную справу, Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» («ім ба толькі флажкі»), тыя, захапіўшы ўладу, першае, што зрабілі - адмянілі, парвалі, зганьбілі нацыянальны сьцяг і...трапілі ў наша сэрца. У сэрца - бо правялі фальшывы, незаконны, скамарошы рэферэндум, каб унізіць народ. І ўнізілі.

За сьцяг нармальныя людзі ахвяруюць жыцьцём, бо гонар важнейшы за сьмерць. Пасьля ліквідацыі дыктатуры, у той жа дзень, будуць вернутыя нашыя сьвятыя беларускія сымвалы: **Бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня**. Мы вернем іх на пасад урачыста пад перазвон званоў, малітвы і песьні. Мы вернем іх навечна.

Пасьля ліквідацыі дыктатуры мы адразу адновім беларускія школы, садкі, ліцэі, усю асьвету і адукацыю. Мы спынім акупацыйную дыскрымінацыю па беларускай мове і міліцэйскі разбой. Мы падтрымаем таксама нацыянальныя меньшасьці і іхныя моўна-культурныя інтарэсы.

Будзе адроджана беларуская вышэйшая адукацыя і беларуская навука, падняты прыярытэт настаўніка і вучонага, бо адукацыя і інтэлект ёсьць цяпер найвышэйшая вытворчая сіла. Будучыня належыць разумным.

Збудаваўшы храм беларускі ў душы, мы зможам збудаваць нацыянальны дабрабыт і нацыянальную эканоміку. Без народнай салідарнасьці, без нацыянальнай сьвядомасьці, без духоўных традыцыяў эканамічныя пляны -міраж, марныя спадзяваньні.

Каб мець хлеб - ня хлеба мусім шукаць, а Беларусі, не кілбасы, а Бога. Што такое эканоміка без маралі - паглядзіце на Усход, на Расею. Гэта тое, на што нельга стаць падобнымі.

Багатая краіна тая, дзе багатыя людзі. Нашая эканамічная палітыка будзе накіраваная на тое, каб беларус багацеў. Усім будзе гарантавана працаваць, вытвараць, прадаваць і купляць. Будзе ўведзены стымуляцыйны прынцып вызваленьня ад падаткаў, сыстэма льготных падаткаў і рацыянальная сыстэма падаткаабкладаньня, накіраваная на разьвіцьцё і хуткі ўздым індывідуальнай працы і прадпрыймальніцтва.

Пэнсіянер, памятай! Калі пабач з табой у выніку разумнай энэргічнай працы ў вытворчасьці, на прадажы, ці гандлі разбагацеў сусед, ён ня вораг табе, не «крывасмок», не «жульё», а прыяцель. З свайго даходу ён плаціць падаткі ў бюджэт, а з бюджэту - табе пэнсія.

Беларусам трэба ўмець ня толькі працаваць, але і арганізоўваць працу, ствараць вытворчасьць, кіраваць прадпрыймальніцтвам, гандляваць і лічыць грошы. Інакш - багацьце не ствараецца. І калі зьяўляюцца такія ўмелыя людзі ў грамадстве - радуймася.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» мае ўстойлівую эканамічную праграму разьвіцьця Беларусі і шэраг надрукаваных законапраектаў. Яны шмат каму вядомыя. Таму я ня буду на іх спыняцца. Тым больш, што няма сэнсу гаварыць пра эканоміку, калі не казаць пра Беларусь.

У эканоміцы мяне клапоцяць перш за ўсё людзі, бо бяз людзей, ці абы з кім ніякія эканамічныя праграмы не рэалізуеш. Мы павінны будзем вельмі ашчадна адносіцца да кіраўнікоў і спэцыялістаў вытворчасьці -было б жаданьне працаваць.

Галоўная сфэра - сельская гаспадарка. Гэта наш грунт і важная крыніца багацьця. Калгасы могуць быць пераўтвораныя ў рынкавыя гаспадаркі з вялікай свабодай дзеяньня і спрыяньнем з боку дзяржавы. Абаперціся тут можна толькі на тых сельскіх людзей, што ёсьць. (На працаўнікоў, кіраўнікоў, спэцыялістаў). Іншых - няма. Таму рэформы павінны быць для людзей, а не для рэформаў.

У пачатку 1997 года, напярэдадні авантуры з руска-беларускай «інтэграцыяй» кожнаму «вертыкальнаму» начальніку ў кабінэт быў разасланы мой ліст, дзе ўсе заклікаліся супрацьдзейнічаць анэксіі Беларусі. Было падкрэслена, што захаваньне патрыятычнай беларускай дзяржаўніцкай пазыцыі ўлічыцца пасьля ліквідацыі рэжыму; гарантуецца праца і пасада. У тым ліку будуць ліквідаваныя дасье. Цяпер я магу толькі пацьвердзіць сур'ёзнасьць намераў, выкладзеных у тым лісьце. І шкада, што некаторыя аднесьліся да яго няўважліва. Зрэшты, яшчэ ня позна.

Тры гады палітычнае дзейнасьці на Захадзе шмат высьветлілі для мяне, што такое Захад, што варта пераймаць, а чаго нельга. Мы, беларусы, народ эўрапэйскай гісторыі і культуры. Нам трэба аднавіць культурную і заможную Беларусь, пабудаваць наш моцны Беларускі Дом. Калі мы будзем гэта рабіць нават мінімальна разумна, то Захад нас падтрымае. І ніхто не стане пры гэтым паграджаць нашаму суверэнітэту і нашай незалежнасьці. Калі ж мы паставім сябе несамавіта, зглумім сваю культуру і эканоміку і дазволім, як у Расеі, усё раскрадаць, мы ў лепшым выпадку станем спажыўцамі заходніх адкідкаў вытворчасьці ды мас-культуры і будзем глядзець, як нашымі дачкамі камплектуюць заходнія бардакі.

Мы не пацягнемся ў Эўропу галоднымі і ня пойдзем пакрыўджанымі. Беларусь будзе такой, як мы зробім. Мы станем гаспадарамі, а не зьбяднелымі родзічамі. **Наша беларуская дзяржава ёсьць наш Дом, наш Храм і наша Крэпасьць.** Калі мы ўмацуем яе нашым розумам і працай, мы пачнем сябе паважаць.

Беларуская замежная палітыка мусіць зыходзіць зь беларускіх інтарэсаў. Мы спынім усе спробы з боку Расеі анэксаваць Беларусь і навязаць нам свае «садружнасьці» ды «саюзы». Але мы не зачынім расейцам дарогу на Захад і ўлічым іхныя інтарэсы пры ўмове павагі да нашай краіны і нормаў міжнароднага права.

Шмат страціла Беларусь за пяць гадоў прамаскоўскага рэжыму. Спатрэбіцца час, каб істотна палепшыць гаспадарку і эканамічны стан у дзяржаве. На месцы стаяць - немагчыма, бо йдзе разбурэньне. Калісьці ў пачатку 90-х гадоў антыбеларуская прапаганда мне закідала: «ён хоча зрабіць як у Польшчы». Што сталася потым у Польшчы - вядома. Толькі Польшча для нас слабы прыклад. Мы самыя можам стаць прыкладам для іншых. Дзеля гэтага трэба, здавалася б, няшмат - паверыць у сябе, у сваю нацыю, у свае магчымасьці, у сваю дзяржаву, у Беларусь.

**Зянон Пазьняк,**
**26 лютага 1999 г.**

## Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў ініцыятыўныя групы

**1 сакавіка ў Цэнтральную камісію па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая створана рашэннем Вярхоўнага Савета, былі перададзеныя спісы дзвюх ініцыятыўных групаў па вылучэнні кандыдатамі ў прэзідэнты былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра і лідара БНФ Зянона Пазьняка.**

Трэба адзначыць, што ў сувязі з адсутнасцю памяшкання, пасяджэнне камісіі прайшло ў арэндаваным выбарчай камісіяй аўтобусе. У адсутнасць старшыні камісіі Віктара Ганчара, які, як вядома, быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі, пасяджэнне правёў ягоны намеснік, старшыня Віцебскай абласной Рады Таварыства беларускай мовы Іосіф Навумчык.

Пасля рэгістрацыі групаў, а гэта павінна адбыцца на працягу пяці дзён з моманту падачы спісаў, іх удзельнікі пачнуць збіраць подпісы ў падтрымку кандыдатураў Чыгіра і Пазьняка. Групу М.Чыгіра, у склад якой увайшлі 800 чалавек, узначаліў Васіль Шлындзікаў, а ініцыятыўную групу З.Пазьняка, якая складаецца з 500 чалавек, — намеснік старшыні БНФ Аляксандр Папкоў. Агульная ж колькасць чальцоў групаў падтрымкі ў абодвух патэнцыяльных кандыдатаў, паводле дадзеных іхніх кіраўнікоў, складае па 3 тысячы чалавек.

Рэгістрацыя ініцыятыўных групаў па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты, згодна з календарным планам перадвыбарчых мерапрыемстваў, працягнецца да 11 сакавіка. Кожная з ініцыятыўных групаў павінна прадставіць у Цэнтрвыбаркам не менш чым па сто тысячаў подпісаў выбаршчыкаў за свайго кандыдата ў прэзідэнты. Подпісы павінны быць прадстаўлены ужо 26 сакавіка.

**Юрый Пацёмкін**

## Увесь Цэнтрвыбаркам пакараны

**2 сакавіка суддзя Ленінскага раёна Менска Валянціна Зянькевіч разгледзела адміністратыўную справу аднаго з сяброў Цэнтральнай выбарчай камісіі, дэпутата Менскага гарсавета Алега Волчэка, які абвінавачваецца ў правядзенні несанкцыянаванага сходу 25 лютага. Згоду прыцягнуць дэпутата да адміністратыўнай адказнасці даў пракурор горада Мікалай Купрыянаў. Гэта дазваляюць змяненні, што ўнесеныя ў закон аб статусе дэпутата мясцовых саветаў і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі ў 1997 годзе.**

Нагадаем, што напярэдадні ўжо былі разгледжаныя справы 14 сяброў камісіі, каторыя былі прыцягнутыя да розных відаў адміністратыўнага пакарання — ад папярэджання да арышту. Старшыня камісіі Віктар Ганчар асуджаны на 10 сутак арышту. Дэпутат Алег Волчэк — былы супрацоўнік пракуратуры і дасведчы юрыст, акрамя таго, у якасці ягонага прадстаўніка ў судзе бралі удзел экс-суддзя Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Міхаіл Пастухоў і дэпутат групы «Статус» Мінгарсавета Ігар Радзюкевіч.

А.Волчэк падкрэсліў, што Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сфармавана і дзейнічае на падставе рашэння Вярхоўнага Савета 13-га склікання і яе рэгістрацыя ў Мінюсце не патрэбна. Пасяджэнне камісіі праходзіла ў закрытым памяшканні, без удзелу пабочных асобаў, аніякіх незаконных заклікаў і прапанваоў на ім не гучала.

25 лютага дэпутат быў затрыманы больш чым на 5 гадзінаў, хаця санкцыі пракурора ў дадзеным выпадку не мелася і, такім чынам, супрацоўнікі міліцыі самі парушылі закон. Волчэк звярнуў увагу, што пратаколы складзены непісьменна, нават яго прозвішча —замест «Волчэк» напісана «Вовчак» і гэтак далей. У сувязі з чым, быў заяўлены шэраг хадайніцтваў — аб выкліку ў суд дзвюх сведкаў — амапаўцаў, склаўшых пратакол, аб запыце ў пракуратуру па факту незаконнага затрымання Волчэка, дакументаў, што пацвярджаюць незаконнасць Цэнтральнай камісіі ды іншыя. Аднак суддзя Валянціна Зянькевіч, патлумачыўшы, што суду гэтыя сведкі і дакументы не патрэбныя, адхіліла ўсе хадайніцтвы, абмежаваўшыся праглядам відэазапісу затрымання сяброў Цэнтрвыбаркама.

Алег Волчэк і Міхаіл Пастухоў заявілі адвод суддзі, бо яна яўна неаб'ектыўна, аднабакова і прадузята вядзе справу. І гэтае хадайніцтва было адхілена, бо адміністратыўнае заканадаўства не прадугледжвае працэдуры адводу. Следам за гэтым суддзя Валянціна Зянькевіч, нават не спыніўшы пасяджэння для напісання пастановы, дастала загадзя падрыхтаванае рашэнне, у якім віна Волчэка і яго ўдзел ў несанкцыянаваным сходзе незарэгістраванай арганізацыі лічылася поўнасцю даказанай і ён быў аштрафаваны на 35 мільёнаў рублёў (70 мінімальных заробкаў).

Алег Волчэк вылучыў сваю кандыдатуру ў склад новага Менскага гарсавета, аднак пасля вынясення адміністратыўнага пакарання, па новым законе аб выбарах, ён ужо не мае права балатавацца ў заканадаўчы орган.

**Генадзь Барбарыч**

## Статкевіч двойчы старшыня

**27-28 лютага 1999 года ў Маскве прайшла Устаноўчая канферэнцыя Усходнееўрапейская сацыял-дэмакратычнага форума.**

Форум ствараецца для каардынацыі дзеянняў і ўсебаковага супрацоўніцтва сацыял-дэмакратычных партыяў Усходняй Еўропы па фармаванню адносінаў раўнапраўя і добрасуседства паміж народамі і дзяржавамі рэгіёна, па ўмацаванню дэмакратыі і законнасці, абароне правоў і свабодаў чалавека, паскарэнню эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу. У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі Сацыял-дэмакратычных партыяў Расіі, Грузіі, Балгарыі, Казахстана, а таксама Сацыялістычнай партыі Грузіі, расійскага руху «Новыя левыя», Беларускай партыі працы і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Пра сваю падтрымку заявілі Сацыял-дэмакратычныя партыі Украіны і Малдовы, Дэмакратычная партыя працы Літвы, Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя Латвіі і партыя Дашнакцуцюн (Арменія).

Былі прыняты Дэкларацыя аб стварэнні і прынцыпах Форума і яго рэгламент, а таксама Пратакол аб адносінах да прафсаюзнага руху. Старшынёй форуму абраны старшыня БСДП Мікалай Статкевіч, генеральным сакратаром - сябра Прэзідыума СДП Расіі Павел Кудзюкін. Намеснікамі Старшыні абраны старшыні Сацыял-дэмакратычных партый Грузіі і Казахстана - Джамал Кахніашвілі і Дос Кашымаў. Яшчэ адзін намеснік (ад сацыял-дэмакратычных партый краін Балтыі) будзе абраны на наступным пасяджэнні 28-29 траўня 1999 года. Тады ж будуць разгледжаны пытанні аб стварэнні аналагічных міжнародных жаночых і моладзевых арганізацый, а таксама пра будучыню сацыял-дэмакратыі ва Усходняй Еўропе.

**Ул. інф.**

# «Усе мы...ў межах Кулічоўкі»

**Нягледзячы ні на што Гарадзенскі абласны драматычны тэатр працуе, паказваючы свае спектаклі і што зусім добра - стварае новыя.**

Вось і ў мінулую суботу на вялікай сцэне тэатра адбылася прэм'ера камедыі пад сціплай назвай «Дзівакі» (у арыгінале п'еса Саймана называецца «Дураки»).

Пра што гэты спектакль?.. Пра жыццё, пра людзей, пра дзень учарашні, сённяшні. Пра нашы праблемы і спадзяванні... словам, пра нас з вамі.

«Усе мы знаходзімся ў межах Кулічоўкі. Дык пажадаем жа адзін аднаму ўдачы», - так гаворыць настаўнік, якога грае артыст В.Капранаў.

Адносна спектакля шмат разоў можна сказаць - «ўпершыню». Так, напрыклад, п'еса ўпершыню пастаўлена ў Беларусі, гэта першая сур'ёзная пастаноўка рэжысёра А.Глотава і, нарэшце, гэта першая вялікая цэнтральная роля маладой актрысы



тэатра Таццяны Казадой, якую вы і бачыце на здымку.

У спектаклі таксама заняты заслужаны артыст Беларусі Сяргей Курыленка, заслужаны артыст Расіі Юрый Трашкееў, артыстка Алена Красікава, артыст Аляксандр Луцэнка ды іншыя.

**Тэкст і фота А.Чаркасава**

# Курсы валют

**На 3 сакавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

Даляр ЗША — 230.000 беларускіх рублёў. Еўра — 250.102,00. Нямецкая марка — 127.875,12. Расійскі рубель — 10.050. У параўнанні з учарашнім днём, афіцыйны курс даляра ўзрос на 1.000 рублёў.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 3 сакавіка даляр куплялі па 305.000—310.000 і прадавалі па 315.000—320.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём, курс не змяніўся.

# Уверх па лесвіцы,якая вядзе...

**У лютым бягучага года ўпершыню за апошнія сем месяцаў на Беларусі павялічыўся сапраўдны памер пенсіяў. У пераліку па рынкавым наяўным курсе максімальны памер пенсіі (без уліку надбавак) узрос з 12,3 — у студзені да 15,4 даляра ЗША — у лютым (пры разліках выкарыстоўваўся курс на 15-е чысло месяца).**

Гэта адбылося дзякуючы яе павелічэнню на чвэрць у рублёвым вылічэнні (з 3 мільёнаў 653,8 тысячы да 4 мільёнаў 572,7 тысячы рублёў) на фоне нязначнага росту рынкавага курсу даляра. Рэальны памер максімальнай пенсіі бесперапынна змяншаўся са жніўня 1998 года. Калі ў ліпені ён складаў 36 амерыканскіх даляраў, то ў жніўні — 33, верасні — 24, кастрычніку —16, лістападзе — 14, снежні — 13.

Адначасова, у параўнанні з лютым 1998 года, рэальная пенсія знізілася ў 2,8 раза. Тады яна была роўная 43 далярам, альбо 13 мільёнам рублёў у пераліку па цяперашнім курсе. Згодна з рашэннем урада, у сакавіку адбудзецца чарговы пералік пенсіяў. Яе максімальны памер павялічыцца на 12,4 працэнта — да 5 мільёнаў 138,4 тысячы рублёў.

# Аўтарынак прачнуўся ў лютым

**У лютым попыт на патрыманыя аўтамабілі на гарадзенскім рынку ўзрос, але нізкі ўзровень зімовых цэнаў пакуль яшчэ не зведаў істотных зменаў.**

Колькасць прапановаў амаль не змянілася ў параўнанні са снежнем мінулага года і складае 703 машыны ў тыдзень.

Аднак за мінулы год істотна змянілася структура прапановы. Так, у лютым 1999 года колькасць прадаваемых штотыднёва СНДшнай прадукцыі знізілася да 93 адзінак, у той час як у лютым 1998 года гэты паказчык у Гродне складаў 128 аўтамабіляў (зніжэнне за год на 27 працэнтаў). Але вырас імпарт - з 46 аўтамабіляў штотыдзень (люты 1998 года) да 607 аўтамабіляў (люты гэтага года, рост 32 працэнты).

Гарадзенскі попыт напрыканцы лютага падскочыў да 32 (!) б/у аўтамабіляў штотыднёва (у снежні 1998 - 11 аўто). У 14 выпадках патрабаваўся аўталом на запчасткі; трох гарадзенскіх пакупнікоў цікавіў недарагі нерастаможаны аўтамабіль б/у з польскага памежжа - цяперашняга адстойніка патрыманай аўтатэхнікі перад адпраўкай на Усход (раней падобныя аб'явы ў гарадзенскай рэкламе не сустракаліся).

Лідарам гарадзенскай прапановы імпарту ў лютым былі мадэлі VW Passat (34 працэнты прапановы VW-груп) і Mercedes-190 (22,7 працэнта прапановы гэтай групы). Каля сарака працэнтаў (дакладней, 38,7) гарадзенскага рынку займала ў лютым прадукцыя канцэрна Фольксваген.

Меней за ўсё лома (гэта за заўвагу патэнцыяльным пакупнікам!) было знойдзена сярод прадукцыі Mercedes (ніводнага працэнта), Audi (1,6 працэнта), VW (2,1 працэнта) і Mazda (4,4 працэнта), якім і трэба аддаваць перавагу,як паказвае практыка, пры набыцці патрыманага аўтамабіля.

**Пра ўзрост парку аўта-second hand.** Сярод 1-3-гадовых у Гродне выяўлена толькі тры штукі ВАЗ і адзін BMW-318 1997 года выпуску. У перспектыўнай 4-6-гадовай узроставай групе аўтамабіляў нечакана аказалася высокай удзельная вага былога аўтсайдэра Opel - 6,75 працэнта, ВАЗ - 5,9 працэнта, VW - 4,8 працэнта і Mazda - 4,4 працэнта. Удзельная вага 7-10-гадовых машын значная сярод Mazda - 33 працэнты, зноў жа Opel - 29,7 працэнта, BMW - 28,6 працэнта, Ford -24,5 працэнта, VW - 24,3 працэнта, Audi - 22,8 працэнта.

У прапанове «старых» аўтамабіляў (узростам больш за 10 гадоў) стабільна лідыруюць надзейны Mercedes (88,6 працэнта), ненадзейны Масквіч (88 працэнтаў) і пакуль яшчэ папулярныя Audi (74,8 працэнта) і VW (70,8 працэнта), а таксама BMW (64,3 працэнта). Меншая за ўсё ўдзельная вага «паважных» аўтамабіляў сярод мадэляў Mazda (62,2 працэнта), Opel (63,5 працэнта) і Ford (69,4 працэнта). З прыведзеных вышэй лічбаў заўважныя працэсы старэння ў шэрагах VW і Audi, з усімі выцякаючымі...

**Пра лютаўскія цэны.** Яны цікавыя тым, што зафіксаваны самы нізкі ўзровень «спящего» - зімовага аўтарынку. Так, сярэдняя цана 7-10-гадовых VW-Passat склала ўсяго 4,8 тысячы USD (у красавіку 1998 г. - 5,7 тысячы USD, у ліпені 1998 года - 7,15 тысячы USD). «Старыя»- «пасаты» і Mazda-626 каштавалі каля 2,4 тысячы USD. Яшчэ больш танна - старэнькія VW-Golf (2,1 тысячы USD), VW-Jetta (2,2 тысячы USD) і Audi-80 (2,05 тысячы USD).

З яшчэ надзейных нестарых мадэляў у сярэднім 5,3 тысячы USD каштавалі 7-10-гадовыя Mercedes-190, Audi-100 (6,7 тысячы USD), Mazda-626 (4,5 тысячы USD), BMW-318 (8,2 тысячы USD). За Audi-100 1994 года выпуску прасілі 13,2 тысячы USD, BMW-735 1990 года выпуску - 11 тысяч USD, Mazda-626 1995 года выпуску - 7,9 тысячы USD, Opel-Astra 1992 года выпуску - 4,3 тысячы USD, Opel-Frontera 1992 года выпуску - 13,2 тысячы USD, Opel-Omega 1995 года выпуску - 13 тысяч USD.

**Сяргей Кануннікаў**

# Тэлефон становіцца раскошай

**Першага сакавіка на Беларусі значна падаражэлі паслугі міжнароднай тэлефоннай сувязі.**

У прыватнасці, кошт перамоваў з краінамі СНД і Балтыі павялічыўся на 50 працэнтаў. Цяпер хвіліна размовы з Украінай абыйдзецца ў 57 тысяч рублёў (раней — у 38 тысяч), з еўрапейскай часткай Расіі — у 63 (42), азіяцкай часткай Расіі — у 75 (50), Малдовай — у 69 (46), Літвой, Латвіяй і Эстоніяй — у 73,5 (49), Арменіяй, Грузіяй, Кіргізіяй — у 102 (68), Азербайджанам, Казахстанам, Таджыкістанам, Туркменіяй і Узбекістанам — у 105 (70) тысяч рублёў.

Тэлефонная сувязь з краінамі далёкага замежжа падаражэла ад палутара да чатырох разоў у залежнасці ад рэгіёну. Да прыкладу, хвіліна размовы з Польшчай цяпер каштуе 63 тысячы рублёў (раней — 42), Чэхіяй — 78 (52), Германіяй і Францыяй — 85,5 (57), Вялікабрытаніяй — 105 (70), Злучанымі Штатамі Амерыкі — 258 (129).

Самая дарагая сувязь — з шэрагам краінаў Блізкага і Сярэдняга Усходу, а таксама Паўднёва-Усходняй Азіі (Іарданіяй, В'етнамам, Кітаем, Пакістанам, Сірыяй і некотырымі іншымі) — 608 тысяч рублёў (раней — 152 тысячы). Трэба адзначыць, што з 9 гадзінаў вечара да 9 гадзінаў раніцы па будніх днях і кругласутачна па выхадных тарыфы зніжаюцца на трэцюю частку кошту.

Папярэдняе падаражанне паслугаў тэлефоннай сувязі адбылося 14 студзеня 1999 года.

**Дзмітрый Уласаў**

# Любіш катацца...

**Канцэрн «Белнафтахім» зацвердзіў з першага сакавіка свабодныя аптовыя і рознічныя цэны на нафтапрадукты.**

У тым ліку, на аўтабензін А-76 за адзін літр — 36100 рублёў, АІ-92 — 54100, АІ-95 — 82300, дызпаліва летняе — 29000, дызпаліва зімовае — 30500 рублёў за адзін літр. Паводле звестак з канцэрна «Белнафтахім», павышэнне цэнаў на нафтапрадукты адбылося ў сувязі з падзеннем курсу беларускага рубля ў дачыненні да даляра ЗША.

Папярэдняе павышэнне цэнаў на нафтапрадукты ў Беларусі было першага лютага бягучага года і складала ад 30 да 40 працэнтаў у залежнасці ад віду нафтапрадукта.

**Яўген Грубіч**

# Са святам, ахоўнікі спакою!

**Сёння беларускія міліцыянты адзначаюць сваё прафесійнае свята-Дзень міліцыі. Для начальніка Ленінскага (г.Гродна) раённага аддзелу службы «Ахова» пры МУС Беларусі падпалкоўніка Станіслава Чаплі, гэтыя дні святочныя ўдвая - 27 лютага яму споўнілася сорак гадоў.**

Хуліганы, грабежнікі, кватэрныя злодзеі - вось з якімі «кліентамі» амаль штоноч даводзіцца працаваць міліцыянтам са службы «Ахова». Асабліва ўдзячныя ім павінны быць уладальнікі аўтамабіляў, чые машыны застаюцца на ноч без нагляду гаспадароў. Не адзін аўтаматар быў спынены супрацоўнікамі «Аховы» на «гарачым» учынку. Так, 11 студзеня гэтага года каля трох гадзін ночы прапаршчык Халько правяраў выкананне службы сваімі падначаленымі. На вуліцы Ліможа ў аўтамабілі «Аўдзі-80» ён убачыў маладога чалавека. Як высветлілася, той ужо паспеў выдраць з машыны аўтамагнітолу і меў намер угнаць аўтамабіль, але своечасова быў спынены спадаром Халько.

...13 красавіка мінулага года старэйшы сяржант Баярчук і сяржант Басінскі, якія аб'язджалі ахоўваемы імі маршрут па вуліцы Даватара, з аднаго з дамоў пачулі жаночы крык аб дапамозе. Калі міліцыянты зайшлі ў пад'езд, іх сустрэў мужчына з заражданай паляўнічай стрэльбай. Ён адразу накіраваў зброю на старшага сяржанта Баярчука. Толькі ўмелыя дзеянні супрацоўнікаў «Аховы» не дапусцілі трагедыі. Міліцыянты доўга ўгаворвалі «чалавека з ружжом» супакоіцца і пры затрыманні абышліся без ужывання зброі. (Здарылася б такое ў Амерыцы, дык чалавек, які б накіраваў зброю на паліцэйскага, адразу атрымаў бы кулю ў лоб). У іншым выпадку злачынцаў давялося абясшкоджваць з дапамогай службовага сабакі. Трэцяга кастрычніка мінулага года каля трох гадзін ночы старшына Рыбачэк і старшы сяржант Сурма атрымалі паведамленне, што ў кватэру дома па вуліцы Пушкіна ўламваюцца невядомыя. Убачыўшы міліцыянтаў, трое мужчын (якія ўжо парэзалі ўваходныя дзверы ў кватэру нажом і пагражалі спалоханаму гаспадару забойствам) кінуліся ўцякаць, але ад міліцэйскага сабакі па мянушцы «Макс» далёка ўцячы не здолелі. Дарэчы, каб у кватэры была «трывожная» кнопка, гаспадар не перажыў бы вялікага страху. Такія кнопкі ўсталёўвае інжынерная служба аддзелу «Ахова». Пасля націскання «трывожнай» кнопкі група затрымання прыязджае на працягу 2-3 хвілін.

Трэба адзначыць, што супрацоўнікі «Аховы» змагаюцца са злачынцамі не толькі ў працоўны час. Так, 15 кастрычніка мінулага года прапаршчык Кульчыцкі, які ехаў дахаты ў тралейбусе, абясшкодзіў кішэннага злодзея. А чацвёртага студзеня гэтага года старшы сяржант Маскальчук падчас палявання ў лесе каля вёскі Навумавічы, затрымаў злачынцу, які нарыхтоўваў дровы на абакраў вясковую краму.

...Хочацца пажадаць супрацоўнікам Ленінскага (г.Гродна) раённага аддзелу службы «Ахова» і ўсім міліцыянтам, якія ахоўваюць спакой грамадзян, каб у іх было менш трывожных сігналаў.

**Дзмітрый Кісель**




## 5 сакавіка

**70 гадоў таму** (1929 г.) нарадзіўся Міхаіл Іоська, філосаф, культуролаг, педагог. Паходзіў з вёскі Бародзічы (Зэльвенскі р-н). Памёр у 1986 годзе.

## 10 сакавіка



**110 гадоў таму** (1889 г.) нарадзіўся Уладзімір Пігулеўскі, празаік, драматург, перакладчык, крытык. Нарадзіўся ў Гродне. Вучыўся ў Менскай класічнай гімназіі, пазней скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. З 1912 года служыў у Гродне ў войску. У гады першай сусветнай вайны - на фронце. Пазней жыў у Літве, з 1922 года - у Латвіі. Працаваў выкладчыкам беларускай гімназіі ў Дзвінску, у 1924-25 гг. быў дырэктарам Люцынскай беларускай гімназіі. На з'ездзе прадстаўнікоў беларускіх культурна-асветных установаў (Рыга, 1926 г.) быў вылучаны на пасаду загадчыка Беларускага аддзелу пры Міністэрстве асветы Латвіі і працаваў там у 1926-34 гг. У 1935 годзе быў арыштаваны і высланы ў Ліепайскі лагер. Вярнуўшыся, займаўся падпольнай працай і журналістыкай. У 1940-41 гг. - інспектар Міністэрства асветы Латвійскай ССР. У час другой сусветнай вайны эвакуяваўся з латышскімі дзецьмі на Паволжа, працаваў там выхавацелем у дзіцячым доме. Пасля вайны працаваў у Рызе, выкладаў у розных установах. Пасля выхаду ў 1950 годзе на пенсію, займаўся літаратурнай працай. Пісаў на беларускай, латышскай, рускай мовах. Памёр 17 чэрвеня 1958 года.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

